# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Die Administration: (13 b) München 15, Pettenkoferstr. 23/I.
Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.

**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

**Банкавае конто:** Administration der weissruthenischen Zeitung „Baćkauscyna“ Bankkontonummer 357-125 Bayerische Hypotheken- und Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 6 (236) — Нядзеля 6 лютага 1955 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 9


## На Далёкім Усходзе грымяць гарматы

Заходнія палітыкі і дзяржаўныя мужы яшчэ нядаўна адзначалі, як радасны факт, што новы 1955 год сьвет сустрэў бяз стрэлаў гарачай вайны. Гэтая радасьць трывала аднак ня доўга. Прайшло ўсяго пару тыдняў і на Далёкім Усходзе, між камуністычным Кітаем і кітайскімі нацыянальнымі збройнымі сіламі, што знаходзяцца на Фармозе і суседніх астравох, распачаліся ўзноў стрэлы і лётніцкія бамбардаваньні, за якімі заходні сьвет сочыць з напружанай увагай.

Урад камуністычнага Кітая яшчэ ў 1950 г., хутка пасьля сваей поўнай перамогі на кітайскім кантынэнце, распачаў інтэнсыўныя прыгатаваньні да захапленьня апошняй пазыцыі Чан-Кай-Шэка на Фармозе. Лепшыя часьці збройных сілаў Кітайскай Народнай Рэспублікі, яе 3-яя палявая армія, былі ўжо тады сканцэнтраваныя ў прыбярэжных правінцыях насупраць Фармозы. У пачатку 1953 году Задзіночаныя Штаты Амерыкі адклікалі нэўтралізацыю Фармоскага заліву, што ў сваю чаргу гэты адрэзак фронту вольнага сьвету перадаваў сілам кітайскіх нацыяналістых. Аднак Амэрыка не пакінула востраву Фармозы ягонаму собскаму лёсу. Дагаворам з урадам Чан-Кай-Шэка аб абароне Фармозы й Пэскадорскіх астравоў, што ляжаць на захад ад Фармозы, заключаным у сьнежані 1954 году, ЗША дапоўнілі Абаронны пакт паўдзённа-ўсходняй Азіі і ад эвэнтуальнай агрэсіі. Абодвы гэтыя дагаворы — аб стварэньні Абароннага пакту паўдзённа-ўсходняй Азіі і з Чан-Кай-Шэкам выклікалі афіцыяльныя пратэсты і войстрыя напады пад адрасам Амэрыкі з боку камуністычнага Кітая і Савецкага Саюзу. Гэта і было непасрэднай прычынай адкрытай агрэсіі чырвонага Кітая супраць прыбярэжных астравоў, занятых збройнымі сіламі Чан-Кай-Шэка.

Гэтак 18 студзеня сёлета ваеннае міністрэрства нацыянальнага Кітая афіцыяльна паведаміла, што збройныя сілы камуністычнага Кітая пачалі дэсантную апэрацыю супраць вострава Ікзян-Шань, найбольш паўночнага з астравоў, што знаходзяцца пад уладаю нацыянальнага Кітаю. Супраціў гарнізону вострава быў зломлены вечарам таго-ж самага дня сіламі камуністычнага дэсанту. Гэтак распачаліся ваенныя апэрацыі кітайскіх камуністых супраць нацыянальнага Кітая Чан-Кай-Шэка, якія трываюць да сяньняшняга дня. У выніку гэтых апэрацыяў цяпер адбываецца эвакуацыя групы астравоў Тачэн, якія маюць быць аддадзеныя камуністым.

Выпадкі на Далёкім Усходзе выходзяць паза межы лякальных падзеяў і набіраюць сусьветнага значэньня. Гэтымі падзеямі жыва зацікаўленая Амэрыка і яна зьяўляецца наважаная станоўча рэагаваць у выпадку загрозы Фармозы і Пэскадорскіх астравоў, да чаго яе фармальна змушае ўспомнены дагавор з Чан-Кай-Шэкам.

Каб зьліквідаваць канфлікт і ўнармалізаваць дачыненьні, Амэрыка, ідучы за прынцыпам коэгзыстэнцыі, выступіла з плянам перамір'я між абодвымі Кітаямі, камуністычным і нацыянальным, і запрапанавала камуністычнаму Кітаю, як цану за перамір'е адступленьне астравоў Куэмой і Матсу, якія зьяўляюцца собскасьцю нацыянальнага Кітая Чан-Кай-Шэка. Гэтым сваім выступленьнем Амэрыка адмовілася ад палітыкі вызваленьня і ў дачыненьні да Кітая ды заманіфэставала сяньня абавязваючую канцэпцыю суіснаваньня з камунізмам.

Але пэкінскі ўрад амэрыканскі плян перамір'я станоўча адкінуў і прадаўжае ваенныя дзеяньні супраць прыбярэжных астравоў. У вадказ на гэта прэзыдэнт Айзэнгаўэр запатрабаваў ад Палаты Рэпрэзэнтантаў і Сэнату паўнамоцтваў збройна ўмяшацца ў канфлікт у выпадку, калі інвазія будзе напасрэдна загражаць Фармозе і Паскадорам, ня хочучы дзеіць на собскую руку, ня ў прыклад Труману, які, ня пытаючы папярэдняй згоды Кангрэсу, распачаў быў збройную інтэрвэнцыю ў Карэі. Гэтыя паўнамоцтвы прэзыдэнт Айзэнгаўэр ад абедзьвюх Палатаў Кангрэсу ўжо атрымаў. З асьветчаньняў прэзыдэнта Айзэнгаўэра вынікае, што 7-ы амэрыканскі ваенны флёт значна цяпер узмоцнены й сканцэнтраваны ў баёвай гатоўнасьці між Фармозай і Кітайскім кантынэнтам, будзе бараніць ня толькі Фармозы й Паскадораў згодна дагавору з урадам Чан-Кай-Шэка, але таксама й астравоў Куэмой і Матсу.

Публічная апінія Амэрыкі моцна занепакоеная сьвежымі падзеямі на Далёкім Усходзе. У той час, калі часьць амэрыканскіх палітыкаў глядзіць на сытуацыю спакойна, верачы, што выразнай асьцярогай удасца паўстрымаць Мао-Тсэ-Тунга перад ваеннай авантурай, другая часьць трывожна лічыцца з магчымасьцю выбуху вайны між Амэрыкай і чырвоным Кітаем.

Паўстае тады важнае пытаньне: ці распачатыя камуністымі ваенныя дзеяньні зьяўляюцца пралёгам да інвазіі Фармозы і тым самым да адкрытай вайны з Амэрыкай ці толькі абмежаванай апэрацыяй супраць прыбярэжных астравоў?

Палітычныя абсэрватары й ваенныя спэцыялістыя ўважаюць, што хаця камуністычная кітайская армія ў вялікай ступені зьяўляецца змадэрнізаванай і выпрабаванай у Карэйскай вайне, усё-ж такі яна тэхнічна за слабая, каб правесьці інвазію аддаленай на 150 клм. ад кантынэнту Фармозы і справіцца зь першарадна ўзброенай трохсоттысячнай арміяй Чан-Кай-Шэка, амэрыканскім ваенным флётам і авіяцыяй, якая мае свае базы як на самой Фармозе, гэтак і на японскім востраве Окінава і на Філіпінах. Для правядзеньня такой складанай апэрацыі неабходныя былі-б задзіночаныя сілы камуністычнага Кітаю і Савецкага Саюзу, пры ўмове, што апошні мусіў-бы адкрыта выступіць у вайне. Але такі крок уцягнуў-бы Савецкі Саюз у вайну з Амэрыкай. На гэта Саветы сяньня яшчэ ня пойдуць, бо да новай сусьветнай вайны ня чуюцца яшчэ гатовымі.

Таму трэба думаць, што камуністычная інвазія абмяжуецца толькі да прыбярэжных дробных астравоў, абарона якіх не прадбачаная ў дагаворы між Амэрыкай і нацыянальным урадам Чан-Кай-Шэка. Але пры гэтых абмежаваных удачах здабывае камуністычны Кітай ня мала. Ліквідацыя апорных пунктаў збройных сілаў Чан-Кай-Шэка каля берагоў чырвонага Кітая створыць вялікі маральны прэсьціж для камуністых. Апрача гэтага, захапленьне прыбярэжных астравоў зьліквідуе каналы інфільтрацыі партызанскіх і дывэрсыйных групаў кітайскіх нацыяналістых на кітайскі кантынэнт.

Такім чынам і ў гэтай апошняй авантуры камуністыя здабываюць немалую карысьць.

**(-іч)**

## Нямеччына і беларуская справа

Амаль дзесяць гадоў прайшло з таго часу, калі пераможныя арміі саюзьнікаў даканчвалі сьцякаючыя крывёй нямецкія дывізіі. З дымам палаючых гарадоў разьвеяўся міт аб непераможнасьці гітлераўскай імпэрыі. Самі Немцы ясна здавалі сабе справу, што надыйшоў мамэнт заплаціць за свае колькігадовыя чыны ды крыўды нанесеныя іншым народам, а пераможцы ўрачыста заяўлялі, што нямецкая небясьпека больш не паўторыцца ды што навет «нямецкая праблема» як такая выэліміноўваецца прынамся на паўстагодзьдзя.

Тады былі дні ап'яняючае перамогі, дні гарачага сяброўства партнэраў у змаганьні з адным ворагам, дні канфэрэнцыяў і нарадаў, якія мелі наважыць аб будучай шчасьлівай долі народаў.

Потым прыйшлі звычайныя будні. А зь імі і новыя праблемы. Аказалася, што хоць змаганьне вялося з тым самым ворагам, аднак партнэры мелі розныя мэты.

Ішлі гады. А разам з гэтым у штодзённае жыцьцё ўсіх, пачынаючы ад палітыка й канчаючы самым шэрым чалавекам, увайшлі два новыя паняцьці, якія пачалі будзіць непакой і няпэўнасьць у заўтрашні дзень — гэта «зялезная заслона» і «халодная вайна». І калі першая хоць і зацьвердзіла фармальна падзел сьвету на два варожыя лягеры, але яшчэ ня была беспасярэдняй прычынай новых падзеяў, дык другая кансэквэнтна мусіла прывесьці да цэлага шэрагу крокаў і зьменаў у палітычным жыцьці.

У выніку гэтых зьменаў адсунутая на поўстагодзьдзе нямецкая праблема аказалася на парадку дня куды хутчэй, чымся гэтага маглі спадзявацца навет самыя Немцы. Ня будучы спачатку актыўнымі ўдзельнікамі гэтае халоднае вайны і зьяўляючыся якраз у вялікай меры ейным аб'ектам, яны змаглі выкарыстаць усе нагоды, каб падняцца на ногі пасьля такое страшнае катастрофы. І гэта ім удалося. Ясна, было-б несправядліва лічыць, што свае дасягненьні яны маюць заўдзячваць толькі спрыяльнай палітычнай сытуацыі ды такім фактарам, як адсутнасьць руйнуючых выдаткаў на збраеньне, дапамога Амэрыкі і г. д. Трэба прызнаць, што іхны практычны падыход, арганізаванасьць, настойлівасьць, энэргія і працавітасьць, калі ня ў большай, дык прынамся ўваднолькавай меры прычыніліся да такое хуткае адбудовы.

Нашы суродзічы, што выэмігравалі ў іншыя краіны 5—7 гадоў таму, ня толькі-б дзівіліся, але і ў шматлікіх выпадках не пазналі-б тае Нямеччыны, якую яны пакінулі. Гэта ўжо не краіна руінаў, краіна бяспраўная, акупаваная.

У сувязі з гэтым паўстае пытаньне: як мы, беларуская палітычная эміграцыя, павінны расцэньваць ды заглядацца на ролю й значаньне сучаснае Нямеччыны, што якраз узыходзіць на сусьветную палітычную арэну? Ясна, адказ на гэтае пытаньне не такі просты. Але перш чым прабаваць знайсьці яго, мы мусім перадусім адкінуць усякія сэнтымэнтальныя настаўленьні, якія-б маглі нам перашкодзіць у даваньні ацэны тым ці іншым фактам.

Фактам-жа першараднага значаньня, зь якім мы мусім пагадзіцца, ня гледзячы на тое, падабаецца нам ці не — гэта роля Нямеччыны як эканамічна-мілітарнага дзейніка ў эвэнтуальным сусьветным канфлікце. Што гэтая роля будзе калі ня першараднай, дык прынамся паважнай, нельга сумлявацца. Калі мы яшчэ поўнасьцяй гэтага не ўсьведамляем, дык затое што раз больш усьведамляюць сабе іншыя. Так, прыкладам, Джордж Ф. Кэнан у сваім артыкуле «Сонца ў паўночны вецер» апублікаваным у паважным інтэрнацыянальным месячніку «Der Monat» (студзень 1955) піша, што ў сучасных умовах і пры сучасным стане коштаў і разьмераў узбраеньня, ваенныя сілы вялікага стылю, асабліва, калі йдзе ня толькі аб вайну на сушы, але й на моры, могуць паўстаць толькі ў пяцёх краінах. Гэтымі краінамі зьяўляюцца, на ягоную думку, Амэрыка, Вялікабрытанія, Японія, **Нямеччына** і Савецкі Саюз.

Аднак ня гледзячы на тое, што Нямеччына мае ўсе дадзеныя, каб быць мілітарнай магутнасьцяй, нямецкае арміі яшчэ пакульшто няма. А гэта, як заўважае Д. Далін (Американская политика и

**(Заканчэньне на 4-ай балоне)**

## Справа сяброуства Беларусі й Украіны у ЗН

Адным з галоўных пытаньняў нарадаў Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў у 1955 годзе зьяўляецца зьмена ейнае хартыі. Для прыгатаваньня праекту зьменаў Сэнацкая Камісія замежных справаў у Вашынгтоне выдзяліла спэцыяльную Падкамісію пад старшынствам сэнатара Вайлі, якая ўжо выдала афіцыйнае паведамленьне пра сваю дасюлешнюю дзейнасьць. У паведамленьні ёсьць зацемка супраць сяброўства Беларусі і Украіны ў Задзіночаных Нацыях таму, што яны, быццам, не зьяўляюцца дзяржавамі ў запраўдным разуменьні гэтага слова і што, дзеля гэтага, Савецкі Саюз няправільна карыстаецца на асамблеях ЗН трыма галасамі. Палітычнае становішча Беларусі і Украіны прыраўніваецца да становішча штатаў Тэксасу й Нью Ёрку ў Задзіночаных Штатах Амэрыкі.

Як даведваемся зь № 3 «Бюлетэню Украінскага Інфармацыйнага Бюра» за 26. 1. 1955 г., прэзыдэнт Украінскай Нацыянальнай Рады др. С. Вітвіцкі, як і Выканальны Ворган УНРады выслалі ў гэтай справе мэмарыялы на адрас Сэнацкай Камісіі, успомненай Падкамісіі і паасобных яе сяброў, у якіх высьвяляецца праўна-дзяржаўнае і міжнароднае становішча Украіны ды зьвяртаецца ўвага на тое, што гэты крок Амэрыкі можа прынесьці толькі шкоду для справы вольнага сьвету.

Намаганьні амэрыканскіх палітычных колаў пазбавіць Беларусь і Украіну сяброўства ў Задзіночаных Нацыях зьяўляюцца простым рэзультатам адмовы Амэрыкі ад палітыкі вызваленьня й пераходу яе на шлях коэгзыстэнцыі. Яшчэ зусім нядаўна, бо толькі ў 1953 годзе Падкамісія замежных справаў Палаты Рэпрэзэнтантаў прыняла праект рэзалюцыі кангрэсмэна Сміта аб дыпляматычным вызнаньні Беларусі і Украіны і зарганізаваньні дыпляматычных прадстаўніцтваў ЗША ў Менску і Кіяве. Гэты крок амэрыканскага заканадаўчага воргану беларускае эміграцыйнае грамадзтва тады горача вітала, як практычнае выяўленьне амэрыканскай палітыкі вызваленьня. На жаль, прайшло ня шмат часу і палітычны курс амэрыканскай палітыкі зьмяніўся на нашую некарысьць.

Не падлягае найменшаму сумлеву, што сяньняшнія дэлегацыі Беларусі і Украіны ў Задзіночаных Нацыях ня рэпрэзэнтуюць беларускага і ўкраінскага народаў, бо зьяўляюцца стаўленікамі і паслушнымі выканальнікамі волі маскоўскага цэнтру. Але для нас Беларусаў мае вялізарнае юрыдычнае і палітычнае значэньне сам факт раўнапраўнага сяброўства Беларусі ў Задзіночаных Нацыях, што зьяўляецца пасярэдным міжнародным вызнаньнем дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі.

Амэрыканскі праект пазбаўленьня Беларусі і Украіны сяброўства ў Задзіночаных Нацыях зьяўляецца толькі вадой на млын бальшавіцкай прапаганды і крэмлёўскай палітыкі. Для вольнага сьвету шкода ад гэтага падвойная. З аднаго боку, гэта адкрывае шырокае поле дзейнасьці для бальшавіцкай прапаганды, якая зможа у вачох беларускага і ўкраінскага народаў прадстаўляць Амэрыку, як іхнага зацятага ворага, што імкнецца пазбавіць іх голасу ў міжнародным жыцьці. З другога боку, самі гэтыя народы будуць чуцца пакрыўджанымі і зьняверанымі ў магчымасьць іхнага вызваленьня з боку Амэрыкі і наагул Захаду. Такое палажэньне можа поўнасьцю абезнадзеіць беларускі і ўкраінскі народы і піхнуць іх у вабоймы бальшавізму.

Зь ненармальнага на сяньня палажэньня, што беларускі і ўкраінскі народы рэпрэзэнтуюць у Задзіночаных Нацыях ня іхныя запраўдныя прадстаўнікі, але крэмлёўскія самазванцы, можа быць знойдзены зусім лёгка правільны і карысны для Захаду выхад. Замест неразважнага і для бальшавікоў карыснага пазбаўляньня Беларусі і Ўкраіны сяброўства ў Задзіночаных Нацыях, трэба пазбавіць права рэпрэзэнтаваньня гэтых народаў маскоўскім узурпатарам, а прызнаць гэтае права за эгзыльнымі ўрадамі Белраусі і Украіны. Гэтыя апошнія, пэўне-ж, маюць большыя падставы выступаць ад імя сваіх народаў, чымся іхныя бальшавіцкія акупанты.

## „Дывэрсанты“ у беларускім лесе

У савецкай паліцыйнай дзяржаве мастацкая літаратура знаходзіцца ў беспасярэднай залежнасьці ад патрэбаў гэтае дзяржавы. Залежнасьць гэтая — факт бясспрэчны. Ён сьцьверджваецца і самымі бальшавікамі, як «партыйнасьць савецкае літаратуры». Цяпер, прыкладам, савецкія пісьменьнікі ў тон «нацыянальнай» палітыцы Масквы дыхаюць «дружбай народаў» і хвалай «вялікага рускага»; у тон палітыцы сельскагаспадарскай яны апяваюць «творчы ўздым» працоўных, «прыгаство» асваеньня цаліны і «рамантыку» працы ў Казахстане й на Алтаі; у тон пастановам партыі аб разьвіцьці цяжкае індустрыі яны выседжваюць творы, у якіх будуць захапляцца візіяй расплаўленае сталі, хвабрычных камплексаў ды йзноў-жа «працоўнага натхненьня» работнікаў, каб выясьніць кажнаму, што ўсё шчасьце й дабрабыт савецкага чалавека ляжыць у... цяжкай індустрыі. Словам, тэматыка савецкім пісьменьнікам накідваецца згары — калі ня іхным собскім вычуцьцём «гэнэральнае лініі», дык цераз закелзанае партыяй «праўленьне» пісьменьніцкага саюзу. Гэтая цесная залежнасьць і падпарадкаванасьць літаратуры палітычным і эканамічным патрэбам дыктатарскае дзяржавы дае магчымасьць, якое мы ня маем у іншых літаратурах, на аснове літаратурных твораў даволі дакладна сачыць за галоўнымі ходамі партыі, што змагаецца зь цяжкасьцямі сытуацыі, ды ар'ентавацца ў вадмоўных мамэнтах савецкае рэчаіснасьці, супраць якіх літаратары закліканы войстра рэагаваць. Безаглядная падпарадкаванасьць літаратуры кіраўніком дзяржавы цягне за сабой і тое, што кажная закранутая ў літаратуры праблема — гэта ня вынік індывідуальнае фантазіі пісьменьніка, а рэч прадуманая і аўтарызаваная палітычнымі інстанцыямі.

Гэткім чынам беларускі пісьменьнік можа расьпісвацца сяньня пра «шчасьлівасьць» савецкага жыцьця, «любімую» Маскву, «вялікую» дружбу савецкіх народаў, «рамантыку» цаліны й падобнае — рэчы ў бальшавіцкай установцы дадатнія. Аднак у сваіх творах ён павінен закранаць таксама (каб не папасьці ў «лакіроўшчыкі» савецкае рэчаіснасьці!) і зьявішчы адмоўныя, як растратнасьць сацыялістычнае маемасьці, рэлігійнасьць, буржуазнасьць, собсьніцкія навыкі й інш. Але ў гэтым выпадку пісьменьніку трэба срога пілнавацца прапор-

**(Далей на 4-ай балоне)**

## Старшыня Амэрыканскага Камітэту у Мюнхэне

Як даведваемся, Старшыня Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня ад Бальшавізму містэр Сарджэнт 28 студзеня сёлета прыляцеў у Мюнхэн, дзе прабудзе даўжэйшы час і дакладна пазнаёміцца з двума найважнейшымі асяродкамі, у якіх рэалізуецца супрацоўніцтва Амэрыканскага Камітэту з многанацыянальнымі эміграцыямі з Савецкага Саюзу — з радыем «Вызваленьне» і Інстытутам для Вывучэньня Гісторыі й Культуры СССР. Містэр Сарджэнт мае правесьці таксама нарады з эміграцыйнымі палітычнымі цэнтрамі паняволеных бальшавізмам народаў, задзіночанымі ў Парыскім Блёку, у справе далейшага пашырэньня супрацоўніцтва Амэрыканскага Камітэту з эміграцыямі. У сувязі з гэтым, — даведваемся далей — многія адказныя палітыкі падсавецкіх народаў, што пражываюць паза Нямеччынай, апошнімі днямі прыбылі ў Мюнхэн.

# Фармуецца трэйцяя сіла

### ДА ПЫТАНЬНЯ АЗІЯЦКА-АФРЫКАНСКАГА БЛЁКУ

Побач зь дзьвюма варожымі палітычнымі і ідэялягічнымі сіламі сяньняшняга сьвету — дэмакратычным Захадам пад правадырствам Задзіночаных Штатаў Амэрыкі і камуністычным Усходам пад такім-жа правадырствам Савецкага Саюзу, што раз выразьней зарысоўваецца фармаваньне трэйцяй сусьветнай сілы, фармальна нэўтральнай, якая імкнецца стаяць з боку ад змаганьня двух сілаў першых, зь ніводнай зь іх не зьвязваючыся. Гэтую трэйцюю сілу маюць стварыць народы Азіі і Афрыкі, таму што раз больш папулярным на Захадзе становіцца цяпер іх абазначэньне, як жоўта-чорнага блёку. Ідэйная кіраўніцтва і ініцыятыву ў фармаваньні гэтага блёку прыняла на сябе Індыя і найбольшы сяньня апостал нэўтралізму й незалежнай азіяцкай палітыкі ейны прэм'ер Пандыт Нэгру.

### ІСТОТА АЗІЯЦКАГА НЭЎТРАЛІЗМУ

Трэба на самым пачатку падчыркнуць, што гэты азіяцкі «неўтралізм» у сфармуляваньні і палітычнай практыцы Пандыт Нэгру не зьяўляецца, аднак, поўнасьцю нэўтральным. Бо ў той час, калі ён усім сваім астрыём зьяўляецца накіраваным супраць «агрэсыўных» і ваенных плянаў у Азіі заходніх дзяржаваў Эўропы і галоўным чынам Амэрыкі, супраць яе ўмешваньня ў нутраныя справы азіяцкіх народаў ды ейнай экспансіі, прыхільнікі гэтага нэўтралізму зусім закрываюць вочы на куды большае і больш небясьпечнае ўмешваньне ў азіяцкія справы Савецкага Саюзу і пасьлядоўную камуністычную экспансію на азіяцкія краіны.

Такое настаўленьне народаў Азіі моцна непакоіць амэрыканскую палітычную апінію. Прапануюцца розныя пляны, ужыцьцяўленьне каторых мела-б, на думку іхных аўтараў, перацягнуць азіяцкія некамуністычныя краіны на бок Захаду, многія палітычныя тэарэтыкі і знатакі ўсходніх праблемаў дашукваюцца прычынаў гэтых тэндэнцыяў народаў Азіі. На асаблівую ўвагу можа заслугоўваць голас былага амэрыканскага амбасадара ў Індыі Чэстэра Боўлса, выказаны ў надрукаваным у «Форэйн Афэйрс» за кастрычнік 1954 году артыкуле «Сьвежы пагляд на вольную Азію». Прычыны азіяцкага нэўтралізму гэты амэрыканскі дыплямат выясьняе наступна:

«Наўперад бальшыня некамуністычных азіятаў ёсьць перакананая ў тым, што найвялікшая небясьпека паходзіць не ад адкрытай агрэсіі з Масквы або Пэкіну, але ад камуністычнай дывэрсіі, якая жыруе на нутранай эканамічнай слабасьці. Гэта вядзе да экстрэмістычнай канцэнтрацыі на нутрана-палітычных праблемах. Падругое, вольныя азіяты маюць доўгае і горкае дасьветчаньне з заходнім каляніялізмам, што выклікае замяшаньне ў іхных узаемадачыненьнях з заходнімі дэмакрацыямі і стварае падазрэньне да заходняй палітыкі ў Азіі. Патрэйцяе, у Азіі, як і ў Эўропе, існуе глыбокае перакананьне, што чырвоны Кітай ня можа быць кантраляваны Масквою і што эвэнтуальна можа разьвіць поўнасьцю незалежную палітыку, **калі дзьверы да вонкавага сьвету астануцца яму адкрытыя».**

З такой ацэнай азіяцкага нэўтралізму й прычынамі ягонага паяўленьня трэба ў васнаўным згадзіцца, тым болей, што некаторыя мамэнты індыйскай палітыкі быццам пацьвярджаюць тэзу Боўлса аб камуністычным Кітаі. Гэтак Пандыт Нэгру падчас сваей нядаўнай візыты ў Пэкіне ня толькі намаўляў кітайскі камуністычны рэжым да адпружаньня канфлікту між Захадам і Ўсходам, але таксама намагаўся ўплываць у кірунку ўмяркаванасьці кітайскай палітыкі ў дачыненьні да Амэрыкі. Варта пры гэтым таксама адцеміць, што індыйска-кітайскае зблізэньне прыняў Савецкі Саюз холадна і крытычна, а савецкая прэса не хавала свайго незадаваленьня з падарожжа Чу-Эн-Ляя ў Індыю.

### ЭТАПЫ ФАРМАВАНЬНЯ ЖОЎТА-ЧОРНАГА БЛЁКУ

Першым фармальным этапам узаемнага пазарумення дзяржаваў Азіі й выпрацаваньне супольнай палітыкі на базе нэўтралізму была канфэрэнцыя ў сталіцы Цэйлёну Колёмбо, скліканая на ініцыятыву Індыі ў траўні 1954 году. У канфэрэнцыі прынялі ўдзел прэм'еры Індыі, Пакістану, Цэйлёну, Бірмы і Інданэзіі. Канфэрэнцыя ўзгодніла і ўмацавала прынцыпы нэўтралізму гэтых краінаў і высказалася за скліканьнем шырэйшай канфэрэнцыі краінаў, што былі калісьці каляніяльнымі або зьяўляюцца імі часткава яшчэ й сяньня.

Гэтыя-ж самыя дзяржаўныя мужы краінаў блёку Колёмбо сустрэліся 28 і 29 сьнежаня 1954 г. у Багоры (Інданэзія) і пастанавілі склікаць вялікую канфэрэнцыю народаў **Азіі і Афрыкі** ў красавіку сёлета. У канфэрэнцыйным камунікаце зазначана, што заплянаваная на красавік канфэрэнцыя будзе мець за заданьне выпрацаваць трывалыя асновы для сусьветнага міру і эканамічнага ды сацыяльнага разьвіцьця народаў і краінаў Азіі і Афрыкі. Але побач з гэтым, канфэрэнцыя мае таксама на мэце, — і гэта найважнейшае пытаньне — **разглядзіць справу каляніялізму, праблему расавую і пытаньне нацыянальнай суверэннасьці азіяцкіх і афрыканскіх народаў.**

Асаблівую цікавасьць прадстаўляе прапанаваны склад удзельнікаў азіяцка-афрыканскай канфэрэнцыі, які мае абняць трыццаць дзяржаваў Азіі й Афрыкі, у тым ліку і такія, якія фармальна незалежнымі яшчэ не зьяўляюцца. Апрача дзяржаваў Колёмбо — **Індыі, Пакістану, Цэйлёну, Бірмы і Інданэзіі,** на канфэрэнцыю маюць быць запрошаныя наступныя краіны: **Афганістан, Камбоджа, Цэнтральна - Афрыканская Фэдэрацыя, Кітайская Народная Рэспубліка, Эгіпт, Абісынія, Залатое Узьбярэжжа, Іран, Ірак, Японія, Ёрданія, Ляёс, Лібан, Лібэрыя, Лібія, Нэпаль, Філіпіны, Саўды-Арабія, Судан, Сырыя, Сыям, Турэччына, Паўночны Ветнам, Паўдзённы Ветнам, Емэн.**

Як бачым, склад удзельнікаў канфэрэнцыі з гледзішча палітычнага будзе вельмі пярэсты. Паводля свайго задуму, канфэрэнцыя мае абняць краіны, якія ў сваей палітыцы стаяць або стаяць павінны на базе нэўтралізму. Але хіба-ж навет самы ініцыятары канфэрэнцыі здаюць сабе справу, што чырвонага Кітаю да краінаў гэткіх залічыць нельга. Аднак да Кітаю прывязваецца вялікае значэньне і, каб даць яму магчымасьць прыняць удзел у канфэрэнцыі, не запрашаюцца найбольш варожыя да яго дзяржавы — Фармоза і Паўдзённая Карэя. Каб не завайстраць сытуацыі, ня будзе таксама запрошаная і Паўночная Карэя, але абодвы Ветнамы — паўночны камуністычны і паўдзённы некамуністычны запрошаныя будуць. Ня будзе запрошаная Паўдзённа-Афрыканская Вунія, ведамая із сваей палітыкі расавай дыскрымінацыі, а таксама Ізраэль, супраць удзелу якога высказаліся дзяржавы арабскія. Ня будзе запрошаны і Савецкі Саюз, які ўважаецца ініцыятарамі канфэрэнцыі за эўрапэйскую дзяржаву, а не азіяцкую.

З гледзішча палітычнага на канфэрэнцыі будуць заступлены тры розныя групы дзяржаваў. Побач з найбольшай колькасна групай узапраўды нэўтральных, але, апрача Індыі, ня маючых вялікае ўдзельнае вагі дзяржаваў, на канфэрэнцыі будуць прыймаць удзел з аднаго боку — камуністычны Кітай і ягоны сатэліт Паўночны Ветнам, а з другога — дзяржавы становуча празаходнія, як Турэччына, Філіпіны і Сыям. Таму на Захадзе ўважаецца, што паўстануць вялікія супярэчнасьці між удзельнікамі канфэрэнцыі, якая дзякуючы гэтаму, ня прывядзе да поўнага ўзгадненьня палітыкі яе ўдзельнікаў, а некаторыя з запрошаных дзяржаваў, прыхільныя да Захаду, могуць навет збайкатаваць канфэрэнцыю.

### ШТО МОЖА ПРЫНЕСЬЦІ КАНФЭРЭНЦЫЯ

Было-б, аднак, непрабачальнай памылкай думаць, што красавіковая канфэрэнцыя ня будзе мець большага палітычнага значэньня і не пакіне па сабе далёка сягаючых палітычных вынікаў.

Галоўны рэзультат канфэрэнцыі будзе бясспрэчна заключацца ў тым, што сярод пэўнае колькасьці ейных удзельні-
цыя супольнага блёку азіяцка-афрыканскіх народаў, базаваная на нэўтральнасьці ў дачыненьні да халоднае і эвэнтуальнае гарачае вайны між камуністычным Усходам і дэмакратычным Захадам, набярэ большай актуальнасьці і можа ўвайсьці ў фазу канкрэтнае рэалізацыі. А гэта для будучага ўкладу сусьветных сілаў можа мець значэньне першараднае.

Апрача гэтага канфэрэнцыя узмоцніць антыкаляніяльныя незалежніцкія імкненьні народаў Азіі і Афрыкі і тым самым аслабіць сыстэмы брытанскага камэнвэльту і францускай вуніі. Прэм'еры дзяржаваў Калёмбо высказаліся ўжо за падтрыманьнем інданэзійскіх прэтэнсіяў у канфлікце з Галяндыяй за тэрыторыі ў заходняй Гвінэі, а таксама незалежніцкіх рухаў у Тунісе і Альжыры. Яны выразна далі да зразуменьня, што справа нацыянальнай самастойнасьці і дзяржаўнай незалежнасьці былых каляніяльных народаў зьяўляецца паза ўсякай дыскусіяй.

### РЭАКЦЫЯ НА ЗАХАДЗЕ

Ня гледзячы на тое, што блёк нэўтральных дзяржаваў Азіі і Афрыкі можа абняць вялізарныя тэрыторыі, населеныя сотнямі мільёнаў людзей, поўнасьцю самастойнай палітыкі ён весьці ня зможа, а таму і ня здолее стацца палітычнай або мілітарнай сілай, удзельная вага каторай была-б роўная блёку камуністычнаму або заходняму антыкамуністычнаму. Трэба заўсёды мець наўвеце, што народы жоўта-чорнага блёку толькі

(Заканчэньне на 4-ай балоне)

# У паняволенай Беларусі

### НАВАГРАДАК АДЗНАЧЫЦЬ 100-ыя ЎГОДКІ СЬМЕРЦІ АДАМА МІЦКЕВІЧА

«Зьвязда» з 29-га сьнежаня мінулага году піша:

«У Наваградку, на радзіме Адама Міцкевіча, створана раённая юбілейная камісія па правядзеньню 100-годзьдзя з дня сьмерці вялікага польскага паэты, якое адзначаецца ў 1955 г.

«У раённым цэнтры закончана будаўніцтва дому для музэю. Загадам Міністэрства культуры БССР Наваградзкі раённы краязнаўчы музэй перайменаваны ў дом-музэй Адама Міцкевіча.»

*

**ГАВОРЫЦЬ РАДЫЁ-МЕНСК** (18. I. 55):

«Пяты пленум ЦК КПБ паставіў перад працаўнікамі сельскай гаспадаркі рэспублікі баявую задачу — забясьпечыць далейшае расшырэньне пасяўной плошчы, павялічэньне ўраджайнасьці й валавых збораў, павышэньне таварнасьці ільну й канапель.»

Наагул-жа ў прэсе й радыё вядзецца цяпер войстрая прапаганда за далейшае разьвіцьцё ільнаводства на Беларусі, як відаць, у пляне сельскагаспадарчай спэцыялізацыі паасобных савецкіх рэспублік.

*

«У рэспубліцы шырака разгарнулася падрыхтоўка да адзначэньня 50-годзьдзя рэвалюцыі 1905—1907 гадоў. У бібліятэках, клюбах, дамох культуры, навучальных установах адкрыліся выстаўкі, матар'ялы якіх падрабязна расказваюць аб першай рускай рэвалюцыі.»

Ну, і напэўна-ж гаворыцца пра сувязі зь «вялікім рускім народам».

*

Найбольш радыёстанцыі БССР заняты цяпер выстаўляньнем кандыдатур тав. Маленкова, Хрушчова й рэшты ў дэпутаты Вярхоўнага Савету БССР.

### ВЫБАРЫ Ў ВЯРХОЎНЫ САВЕТ БССР

30. XII. 54 радыё-Менск паведаміла:

«У рэспубліцы разгортваецца арганізацыйная й агітацыйна-масавая работа па падрыхтоўцы да выбараў у Вярхоўны Савет БССР і мясцовыя саветы дэпутатаў працоўных.»

Ну, і на гэты раз бальшавікі будуць мець 99,9%.

### Цэ-Ка ХОЧА МАЛАКА

30. XII. 54 радыё-Менск паведаміла:

«ЦК камуністычнай партыі Беларусі ў пастанове аб мерах павялічэньня прадуктыўнасьці кароў у калгасах у стойлавы пэрыяд паставіў перад партыйнымі й савецкімі органамі, кіраўнікамі МТС і калгасаў, перад усімі калгасьнікамі заданьне дабіцца павялічэньня надояў малака на фэрмах у зімовы пэрыяд.»

Калгасьнікам засталося цяпер толькі давесьці да ведама кароў пастанову партыі . . .

### НОВЫЯ ТВОРЫ БЕЛАРУСКІХ САВЕЦКІХ КАМПАЗЫТАРАЎ

У сувязі з падрыхтоўкай да дэкады беларускай літаратуры й мастацтва ў Маскве кампазытары Беларусі значна актывізавалі сваю творчую дзейнасьць. За апошні час яны напісалі цэлы рад сымфанічных, песенных і іншых твораў.

М. Аладаў стварыў 4-ую сымфонію. Д. Камінскі закончыў працу над увэртурай для сымфанічнага аркестру. Р. Пукст напісаў кантату.

Над удасканаленьнем опэры «Дзяўчына з Палесься» прадаўжае працаваць Я. Цікоцкі.

Значная ўвага надаецца стварэньню песьняў, якія будуць выкананы на заключным канцэрце дэкады. Гэтай працай занята вялікая група кампазытараў — А. Багатыроў, Ул. Алоўнікаў, М. Чуркін, Ю. Семяняка, М. Носка і інш.

(Паводля хронікі часапісу «Полымя» № 11 [54])

### 30.000 ЗЬ БЕЛАРУСІ І УКРАІНЫ

Як паведаміла «Комсомольская Правда» за 9 студзеня 1955 г., на 8 студзеня да выезду на асваеньне цалінных земляў «запісалася»: **зь Беларусі 15.000 чалавек,** з Украіны — 15.000, з Краснадарскага краю — 10.000, зь Ленінграду — 1.500.

**Р. Склют**

# Да творчае гісторыі „Сымона Музыкі“

(Заканчэньне)

Калі прыгледзецца да ўсіх кагадзе адзначаных намі тэкстуальных зьменаў ў «Сымоне Музыку», асабліва-ж да найбольш лічнае й характэрнае групы іх, сьціраванае на рэлігійны мамэнт у паэме, ня з гледзішча толькі іхняга выходнага пункту, якім выразна быў фактар цэнзурны, дзейны ў ідэялёгічным кірунку, а зірнуць на іх з гледзішча канцавога эфэкту ў кірунку ўжо мастацка-літаратурным, дык няцяжка прыйсьці да высnаву, што гэткім іхным эфэктам аказваецца ня што іншае, як пэўная **дэрамантызацыя** твору. Нельга аніяк цьвердзіць, што гэткі эфэкт мог быць у пляне мэтаў дзеяньня цэнзуры: «сацыялістычнага рэалізму» ня было яшчэ й у завадзе тымі часамі, рамантыка ня вытручвалася сама па сабе, а толькі перасьледвалася заадно зь «містыкаю» ці «рэлігійнасьцяй», як гэтыя мамэнты, а не рамантыка, як такая. Затое зусім іншы фактар, што вызначаў сабою перарэдагаваньне «Сымона Музыкі» — фактар навыкласьці Коласа да супрацьлежнага рамантызацыйнаму мэтаду гэтае паэмы стылю «Новае Зямлі», — якраз дзеіў у гэтым кірунку дэрамантызацыі, і гэткім парадкам падтрымваў і дзеяньне фактару цэнзуры, хоць і адрознае ў сваім выходзішчы, дык у рэчышча таго-ж кірунку ўлучанае, хай і не адмыслова сочаным, ды фактычна дасяганым агульным канцавым эфэктам. Гэткае дзеяньне гэтага другога факту ўсё больш выходзіць на першы плян у зьменах сюжэтных, з падтрымальнага толькі ўсё больш выяўляючыся галоўна вызначальным.

Першая сюжэтная зьмена ў новай рэдакцыі «Сымона Музыкі» прыпадае на мамэнт разрыву гэроя з карчмой у частцы III паэмы: калі ў першай рэдакцыі ён пакідаў гэты свой прытулак у выніку таго чыста-рамантычнага канфлікту «мастака» з «натоўпам», які праф. Вазьнясенскі добра ўважаў наагул за адзін з характэрных мамэнтаў рамантызму ў паэме, дык у новай рэдакцыі мамэнт гэты тут зусім зьнікае. Праўда, у разгортаньні гэтага канфлікту за выходзішча была якраз тая «ода Божай творчасьці» паводля М. Гарэцкага, што зьнікла ў выніку спрычыненага цэнзурай тэкстуальнага перарэдагаваньня: таму можна было-б думаць, што якраз гэтае ейнае зьнікненьне пацягнула за сабой і выэлімінаваньне цэлага канфлікту. Адылі-ж, кагадзе перад тым, у папярэдняй II частцы паэмы, мусіў дзеля тых-жа прычынаў быць выэлімінаваны зусім аналёгічны гімн Богу-тварцу, аднак-жа там ён быў заменены гімнам зорам — няўжо-ж падобнае замены нельга было зрабіць і тут, каб ня зьмянчалася плынь сюжэту? Яна аднак ня была зробленая, і таму зусім ясна, што цэнзурны мамэнт мог быць тут ня больш, як невялічкім штуршком да цэлае зьмены (калі й быў ім тут наагул), а галоўнавызначальным аказаўся мамэнт дэрамантызацыі, кіраваньня сюжэту да большае «натуразгоднасьці», бліжэй да мамэнту «Новае Зямлі».

Падобныя-ж зьмены дэрамантызацыйнага парадку былі праведзеныя й у іншых сюжэтных мамэнтах тае-ж III часткі (галоўна ў мамэньце Яхіма), а таксама й наступнае IV часткі, адно што іх цяжэй прасачыць дзеля тымчасовае недаступнасьці поўнага тэксту першае рэдакцыі гэтых мясьцінаў. Абапіраючыся на агульныя ўспаміны, можна аднак агульна-ж і зазначыць, што дэрамантызацыя гэтая была праведзеная тут праз узмацненьне часта-сацыяльнага мамэнту. Ізноў-жа, можна было-б думаць, што ўзмацненьне гэтага апошняга магло-б заўдзячвацца дзеяньню таго-ж фактару бальшавіцкае цэнзуры вылучна ці галоўна, калі-б не зважаць на такую, скажам, акалічнасьць, што разьвязаньне сацыяльнага пратэксту таго-ж Яхіма праз канакрадзтва аніяк не магло-б быць у гусьце пажаданьняў тае цэнзуры й служыла адно мэце дэрамантызацыі гэтага вобразу бунтара, калі зусім не рэвалюцыянэра (больш прычэплівая цэнзура пасьлейшых год наўдачу, каб наагул прапусьціла гэты мамэнт у гэткім выглядзе). Ужо ў гэтым апошнім мамэньце зь Яхімам можна бачыць тое разьвязаньне прадпрыйманых пры перарэдагаваньні паэмы зьменаў на зусім супрацьлежнай да «гэнэральнае» цэнзурнае лініі, аб якім успаміналася вышэй у сваім месцы; адылі, у поўнай выразнасьці гэты апошні мамэнт выступае толькі пры перарэдагаваньні апошняе пятае часткі паэмы — таго ейнага «канца», пра які кажа й Шукевіч-Трацьцякоў.

Адылі, як відаць із Шукевічавага сьветчаньня, у тым «канцы» «Сымона Музыкі» гэную «марксыцкую крытыку», ці то бальшавіцкую цэнзуру, не здавальняла адно «аблытаньне рэлігійнай павуцінаю», тым-жа часам перарэдагаваньне Коласава далёка не абмежылася тут «сьціданьнем» гэнае «павуціны», а, з другога боку, і ў тым «сьціданьні» выразна мелася наўвеце ня гэтулькі «рэлігійнасьць» гэтае «павуціны», колькі сама яна, як такая, г. зн., як мамэнт зацемненасьці, няяснасьці сюжэтнае разьвязкі. Як ужо адзначалася намі ў сваім месцы, гэты апошні мамэнт быў абумоўлены абставінамі самое пары завяршэньня паэмы, што не разгортвала яшчэ ніякіх ясных і выразных пэрспэктываў перад глыбака ўражаным, нат прыбітым ходам ейных падзеяў паэтам. Дык ужо той фактар стабілізацыі абставінаў і выясьненьня пэрспэктываў у пасьлейшых гадох, наперад адзначаны намі вышэй у сваім месцы, сам па сабе й найбольш штурхаў да перарэдагаваньня гэтага мамэнту, што таксама й тамсама-ж адзначалася. Перарэдагаваньне гэтае ў васнаўным зьвялося да таго, што Ганна (як памятаем, алегарызаваны вобраз «Маладой» — нацыянальнай Беларусі) пасьля замаху на яе Дамяніка (як памятаем, алегарызаваны вобраз бальшавізму) ужо не праходзіць ніякіх містычных трансфармацыяў, як гэта было ў першай рэдакцыі, а проста стаецца псыхічна ненармальнай, але прыбылы да яе Сымон (вобраз паэты-адраджэнца) гукамі свае музыкі пачынае зварачаць яе да розуму. Алегорыя, як бачым, вельмі нядвусэнсавая, нацыянальнае адраджэнцкае мастацтва зварачае да розуму, да жыцьця псыхічна шакаваную бальшавізмам «Маладую Беларусь». Гэткую новую «мараль», падказаную выразна ходам нацыянальнага ўздыму пачатку 20-ых год — славутае пары «нацдэмаўшчыны» — і надае цяпер Колас перарэдагаванай ім ягонай «казцы жыцьця». Прысьвячаючы-ж новую рэдакцыю свайго твору беларускай моладзі, паэта гэтым самым і ставіць перад ёй задачу ўжыцьцёўленьня гэтае «маралі» — абуджэньня да розуму, да жыцьця шакаванай бальшавізмам нацыянальнай Беларусі.

Гэткім, зусім неспадзяваным і непажаданым (ды зусім правочаным) фіналам абарачаецца для ўсіх і ўсякіх «марксыцкіх крытыкаў» і «кіраўнікоў» той канец «Сымона Музыкі», да перапрацаваньня якога яны гэтак ціснулі ўсёй сілай усялякіх сваіх «уплываў». Хоць і не адразу, але ўсё-ж дайшло гэта да іхнага, ніколі асаблівай вайстрынёй не багатага цяму, і ў працэсе надойшлага з 30-мі гадамі пагрому тае «нацдэмаўшчыны» і «Сымон Музыка» падзяляе зусім заслужана ўсім «нацдэмам» прызначаную долю: ён выганяецца і зь бібліятэкаў, і з школы, кляйнуецца тэй-жа «марксыцкаю крытыкаю», што, агледзеўшыся нарэшце, добра разгледзела ўвесь «нацыяналізм» гэнага «наіўна-алегарычнага расказу», паводля выказваньня крытыка Браншгэйна ў 1936 г.

Дваццаць з гакам год трывала гэтае выгнаньне «нацдэма» «Сымона Музыкі» — ад 1925 да 1946 г. паэма аніразу ня перавыдавалася ў Савецкай Беларусі, а выданьне 1925 г. не дазвалялася ў бібліятэках і школах. І толькі калі нарэшце час сьцёр вайстрыню ўспамінаў тае пары, што алегарызаваная ў паэме, знайшлі магчымым і нат патрэбным зьвярнуць да жыцьця выгнанца, забясьпечыўшы яго новым ключом да разуменьня — ключом «становішча народнага мастацтва ў капіталістычным грамадзтве», спадзяючыся гэткім запраўды наіўным прыхваткам абясшкодзіць дзеяньне «наіўна-алегарычнага расказу»... «Сымон Музыка» выдаецца й перавыдаецца цяпер у Менску (другі раз у 1952 г.), камэнтуецца новымі «марксыцкімі крытыкамі» ў вадзначаным кагадзе духу, але ўсёроўна застаецца ў існасьці, якім стварыў яго паэта, — тэю-ж «казкаю жыцьця» Маладой Беларусі, няўмірушчай і пад усімі перагасамі, несенымі ёй усялякімі дамянікамі, заўсёды вернай свайму нацыянальнаму духу й пэўнай нямінучага адраджэньня свайго ў ім і праз яго.

# Дылемы генэрала Грунтэра

Польскі лёнданскі тыднёвік «Ожэл Бялы» (№ 4 за 22. 1. 1955 г.) зьмясьціў пад вышэйшым загалоўкам вельмі цікавы артыкул Г. Гінтэргоффа, у якім аўтар аналізуе стратэгічныя пляны збройных сілаў Атлянтычнага пакту і робіць цікавыя вывады. Ніжэй перадрукоўваем гэты артыкул зь некаторымі скарачэньнямі.

*

«Пляны вядзеньня вайны былі ўважаныя калісьці за найвялікшую вайсковую тайніцу: яны былі хаваныя ў зялезных шафах, увесь-жа высілак чужых разьведак быў ськіваваны на адхіленьне хоць-бы крыхі тайніцы вакол іх.

Плян абароны Заходняй Эўропы не зьяўляецца ніякай тайніцай: быў ён публічна абмяркоўваны шмат разоў галоўнакамандуючым збройных сілаў Атлянтычнага пакту ген. Грунтэрам, а так-жа ягоным заступнікам маршалам Монтгомэры, а гэтыя выказваньні выклікалі паважнае занепакаеньне ў краінах Заходняе Эўропы.

Плян гэты, выпрабаваны на манэўрах, а так-жа падчас ваенных іграў у галоўным камандаваньні Атлянтычнага пакту, зьяўляецца сфармуляваны коратка і проста і, на першы пагляд, не зьмяшчае ніякіх праблемаў, якіх нельга было-б разьвязаць.

Згодна з гэтымі плянамі, збройныя сілы краінаў Атлянтычнага пакту, якія налічваюць у часе міру каля 20 дывізіяў і 12 запасных дывізіяў, паложаных на тэрыторыі Заходняй Нямеччыны, будуць мець заданьне апазьняньня пры помачы манэўру адвароту пасоўваньня сілаў праціўніка, пакуль ня будзе закончаная мабілізацыя і пакуль стратэгічнае лётніцтва ня выканае даручаных яму падчас міру заданьняў. Сілы гэтыя, як адкрыта сьцьвярджаў ген. Грунтэр, зьяўляюцца за слабыя для выконваньня прызначанай ім ролі «тарчы», і адсюль гэтак паважнае значэньне для абароны Эўропы мае ўклад прадбачаных дагаворамі 12 нямецкіх дывізіяў. Савецкі шал з прычыны магчымасьці зрэалізаваньня гэтых дагавораў ёсьць найлепшым довадам, як моцна гэты ўклад разбурае савецкія пляны.

Дапамога тактычнага лётніцтва, згодна гэтага пляну, а так-жа згодна паглядаў вышэйшых камандуючых брытанскага лётніцтва — мае запэўніць слабым наземным сілам магчымасьць паўстрыманьня савецкага націску ў кірунку на Рэйн што найменей на працяг аднаго тыдня.

Пры бліжэйшай аналізе гэтага пляну робіцца ясным, што вяжыцца ён з радам праблемаў нязвычайна скамплікаваных і так багатых вынікамі, зь якімі ня меў яшчэ справы ніводзін камандуючы ў гісторыі чалавецтва.

Распачнём ад праблемы адносна найпрасьцейшай, пайменна ад дапамогі тактычнага лётніцтва, якая, на думку вышэйшых камандуючых брытанскага лётніцтва, будзе здольная паўстрымаць савецкую афэнзыву. На жаль, пагляды гэтыя абапіраюцца ў вялікай ступені на дасьветчаньнях апошняй фазы мінулай вайны, калі альянцкае лётніцтва мела вялізарную перавагу, не бяручы пад увагу дасьветчаньняў з вайны ў Карэі і Індакітаі, дзе найбольшае насіленьне лётніцкіх атакаў не магло паўстрымаць ані руху войскаў добра расьцярушаных у прасторы, ані навет перашкодзіць пастачаньню. А сяньня Захад ня мае перавагі ў паветры.

Пераходзячы да справы найважнейшай, трэба падчыркнуць, што «плянаваньне ў галоўным камандаваньні збройных сілаў Атлянтычнага пакту», як выразіўся маршал Монтгомэры, «зьяўляецца базаванае на атамнай і вадароднай зброі», і гэтае асьветчаньне стварае цэлы рад праблемаў: зьнішчальная сіла новага аружжа зьяўляецца гэтак страшная, а разыходжаньні між дасюлешнімі паняцьцямі аб вядзеньні вайны і рэвалюцыйнымі вынікамі новага аружжа гэтак вялікія, што плянаваньне ў вабліччы гэтых праблемаў становіцца проста неразьвязальным.

Калі-б Захад меў атамную перавагу, гэтая дылема ня існавала-б наагул, і гэтае аружжа было-б узапраўды, як цьвердзіць брытанская «Белая кніга абароны», выстарчальным і **«галоўным сяродкам, каб вайну зрабіць немагчымай»...** На жаль, маючы на працягу столькі год манаполь, а пазьней перавагу ў новай зброі, Захад ня ўмеў, а перадусім не хацеў здабыцца на тое, каб яе выкарыстаць. Уражаньне выкліканае ў цэлым сьвеце, — а значыцца і ў Саветах таксама — атамнай бомбай, ськінутай на Гірашыму, было гэтак вялізарнае, што аднэй толькі загрозай ейнага ўжыцьця Захад мог змусіць Саветы адступіць паза граніцы 1939 году. ...Нямецкая праблема ня існавала-б наагул. Калі-б палітычныя правадыры Захаду мелі ў той час дастаткова цывільнай адвагі, сьвет меў-бы цяпер запэўнены на доўгі час пэрыяд міру.

Так як ёсьць справай сумлеўнай, каб Захад наважыўся калі-небудзь выкарыстаць сваю шыбка малеючую атамную перавагу, нельга выключыць магчымасьці, што бок праціўны наважыцца яе выкарыстаць — або загрозіць яе выкарыстаньнем — як асягне станоўчую перавагу. Захаду тады астанецца толькі мэтад «масыўнай адплаты». Трагізм усяе дылемы палягае ў тым, што калі некалькі вадародных бомбаў хопіць, каб поўнасьцю спараліжаваць Вялікабрытанію і кажны з краёў Эўропы, дык навет некалькі дзесяткаў такіх бомбаў, ськінутых на вялізарныя прасторы Савецкага Саюзу, ледзь можа выклікаць паважнейшыя шкоды. Апрача гэтага, бомбы такія, ськінутыя дзесьці далёка на тэрыторыі Савецкага Саюзу, ня будуць мець ніякага ўплыву на пасоўваньне савецкіх войскаў наземных у кірунку на Рэйн: у выніку — аружжа гэтае ня выканае найважнейшага заданьня, пайменна, ня зможа паўстрымаць савецкай навалы, якая ў гэтым часе будзе затапляць Заходнюю Эўропу. Дык калі ўсё плянаваньне галоўнакамандаваньня збройных сілаў Атлянтычнага пакту будзе базавацца на выкарыстаньні новага аружжа, можа яно азначаць канец для Захаду, адначасна не даючы гарантыі ягонай абароны перад афэнзывай наземных войскаў праціўніка...

Зьяўляецца таксама справай сумлеўнай, каб атамная артылерыя магла паўстрымаць няпрыяцеля, добра расьцярушанага ў прасторы і ня прывязанага да шляхоў, затое псыхалягічны й палітычны эфэкт раду Гірашымаў, навет у малым маштабе, на тэрыторыі нямецкіх гарадоў або краёў Усходняй Эўропы можа быць вельмі некарысны.

Не зьяўляюся ворагам атамнай зброі — гэта толькі савецкая прапаганда заклікае да забароны яе ўжыцьця — здаецца мне толькі, што абапіраньне ўсяго плянаваньня абароны Захаду на яе выкарыстаньні зьяўляецца што найменей справай вельмі небясьпечнай.

З другога ўзноў-жа боку, калі абодвы лягеры дойдуць да нямога паразуменьня — няўжываньня атамнага аружжа, — дык галоўнае камандаваньне збройных сілаў Атлянтычнага пакту стане перад ня менш трагічнай дылемай, пайменна, перад вялізарнай лічбовай перавагай праціўнага боку, якая, як выразіўся ген. Грунтэр, будзе ўжываць «стратэгію валу мяса».

Вось-жа ўжо цяпер, пакуль нямецкія кантынгенты будуць гатовыя, нямецкая апінія пачынае што раз болей выступаць супраць апэрацыйнай дактрыны галоўнага камандаваньня Атлянтычнага пакту, пададзенай на пачатку гэтага артыкулу: яна пратэстуе супраць разгляданьня Заходняй Нямеччыны вылучна як манэўравай тэрыторыі і заклікае ўрад высунуць катэгарычныя дамаганьні даць Немцам адпаведныя палітычныя гарантыі, што нямецкая тэрыторыя будзе бароненая. Аргумэнты, высоўваныя нямецкімі генэраламі, вайсковымі пісьменьнікамі і палітыкамі гавораць, што так як заходнія арміі маюць распачаць свой манэўр адвароту, няма ніякай гарантыі, што змогуць яны затрымацца навет на захад ад Рэйну. Для Нямеччыны манэўр гэты абазначае палітычную, фізычную й вайсковую сьмерць... Напасьледак, гэтая апінія цьвердзіць, што ў сувязі з агульнай неахвотай нямецкай моладзі служыць у войску, яшчэ цяжэй будзе яе заахвочваць да вайсковай службы, калі будзе ведама, што згодна плянаў галоўнага камандаваньня Атлянтычнага пакту Нямеччына будзе аддадзеная амаль бяз супраціву на ласку савецкіх гордаў.

Здаецца, што якраз такое настаўленьне нямецкай публічнай апініі зьмяшчае само ў сабе некаторую долю адказу на не адну дылему галоўнакамандуючага, пайменна, ёсьць яна выражэньнем гатоўнасьці нямецкага народу бараніць кажную пядзю сваей зямлі. Як ведаем з дасьветчаньняў кампаніі ў Расеі, навет аслабленая нямецкая панцырная дывізія магла паўстрымоўваць на працягу тыдняў у некалькі разоў мацнейшыя савецкія сілы на фроньце, наагул-жа нямецкія аддзелы выказалі здольнасьць адбіваньня атакаў савецкіх сілаў, перавышаючых іх лічбова ў вадносінах 10 да 1, а часамі і шмат большых.

Узрастаючы шал савецкай прапаганды ў сувязі з надыходзячай рэалізацыяй узбраеньня Нямеччыны можа быць найлепшым довадам, што Саветы дасканала здаюць сабе справу з кансэквэнцыі ўдзелу нямецкіх кантынгентаў у вабароне Заходняй Эўропы.

Ясна, наземныя сілы, прызначаныя для абароны, могуць выконваць сваё заданьне толькі тады, калі адносіны сілаў да прастору могуць быць выражаныя якімсьці разумным назоўнікам, і калі сілы гэтыя будуць адпаведна зарганізаваныя. Дасьветчаньні кампаніі ў Расеі паказваюць, што найбольш адпаведнымі для абароны на шырокім фроньце зьяўляюцца панцырныя фармацыі, якія могуць выкарыстоўваць сыстэму абаронных вузлоў. Такога роду спалучэньне абароны дынамічнай з абаронай статычнай будзе найлепшым мэтадам абароны супраць мэтаду ворага, які напэўна будзе тарнаваць мэтады «бліцкрыгу» (бліскавічнай вайны) шляхам інфільтрацыі малых і шыбкіх панцырных адзінак, за якімі будуць пасоўвацца масы наземных войскаў.

«Вал мяса» на баку Саветаў будзе складацца ня толькі з савецкіх жаўнераў, але, і гэта ў вялікай часьці, з жаўнераў сатэлітных арміяў, і ў дадзеным выпадку адпаведнае выкарыстаньне мэтадаў псыхалягічнай вайны можа даць у рукі ген. Грунтэра казырную карту. 80 дывізіяў, існуючых у часе міру ў паняволеных краінах, а якія могуць быць падвоеныя ў часе вайны, могуць прынесьці трагічнае расчараваньне Саветам — могуць яны навет перахіліць шалю вайны — калі Захад патрапіць прамовіць да іхных сэрцаў і выабражэньняў... Стварэньне нацыянальных аддзелаў з прадстаўнікоў краёў Сярэдня-Ўсходняй Эўропы дасьць поўны адказ на гэтае пытаньне...»

Нельга не згадзіцца з гэтай аналізай і ацэнай стратэгічнага плянаваньня галоўнага камандаваньня збройных сілаў Атлянтычнага пакту за выключэньнем аднаго кардынальнага пытаньня. У сваім шавіністычным і ігнаранцкім у дачыненьні да паняволеных народаў засьляпленьні аўтар артыкулу, як і бальшыня Палякаў, высоўваючы эвэнтуальнасьць пераходу на бок Захаду сатэлітных арміяў, сьвядома прамоўчвае такую-ж эвэнтуальнасьць і сярод жаўнераў савецкіх, асабліва жаўнераў нерасейскіх народаў, якія, як паказала мінулая вайна, не хацелі ваяваць у вабароне савецкае сыстэмы і сотнямі тысячаў здаваліся Немцам. Нельга зрабіць горшай услугі заходняму камандаваньню, як падсоўваньне яму такога рэцэпту, які прапануе польская газэта.

# Амэрыка ўшанавала сьвята ўкраінскай дзяржаўнасьці

Украінскае Інфармацыйнае Бюро 26 студзеня сёлета падала наступнае паведамленьне:

«У выніку пэўных захадаў, у паразуменьні і за згодай адпаведных палітычных рэпрэзэнтантаў, адбыліся ў высокіх законадаўчых установах Задзіночаных Штатаў Амэрыкі некаторыя акты вялікага і важнага для Украінцаў і для ўкраінскай справы значэньня. А пайменна:

Паседжаньні ададзьвюх Палат Кангрэсу Задзіночаных Штатаў Амэрыкі ў Вашынгтоне — Палаты Рэпрэзэнтантаў і Сэнату — напярэдадні гадавіны 22 студзеня былі адкрытыя ўрачыстымі малітвамі за вызваленьне ўкраінскага народу, якія — першы раз у гісторыі гэтае краіны — былі ўзьнесеныя Высокімі Дастойнікамі Украінскіх Цэркваў, праваслаўнай і каталіцкай.

У Палаце Рэпрэзэнтантаў выступіў Мітрапаліт Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Іван Тэадаровіч, каб адзначыць 37-ую гадавіну незалежнасьці Украіны. Мітрапаліт маліўся, каб прыйшоў час, калі ўсе народы й людзі зажывуць мірна адны побач другіх, безь зялезных заслонаў, тыранаў і няволі.

Мітрапаліт расказаў пра войстрае перасьледваньне Царквы ў Украіне пад камуністычным рэжымам, аб тым, як бальшавіцкі тэрор зьліквідаваў трох мітрапалітаў Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, трыццаць япіскапаў і сотні сьвятароў.

У той самы час, калі ў Палаце Рэпрэзэнтантаў прамаўляў украінскі праваслаўны мітрапаліт, у Амэрыканскім Сэнаце выступіў украінскі грэка-каталіцкі сьвятар архімандрыт Чыну Сьв. Васіля Вялікага а. Мікола Когут. У сваей прамове перад амэрыканскімі сэнатарамі ўкраінскі сьвятар гаварыў, што Амэрыка сталася прытулкам для паняволеных народаў. Ён прасіў Бога, каб дапамог амэрыканскаму народу ў выкананьні ягонай вялікай місіі — даць падтрыманьне рэшце сьвету, каб усе народы ведалі, што згодна з Божаю воляю ўсе яны павінны жыць у свабодзе, міры і справядлівасьці.

Ён маліўся, каб Усемагутны Бог даў сілу нашым абяздоленым братом за зялезнай заслонай вытрываць перад тыраніяй камунізму: **«Нашыя браты ў кайданах, наш край у руіне; о, дапамажы, Божа, Украіне і іншым паняволеным народам здабыць сілу, славу, свабоду й магутнасьць! Мы просім Бога, каб прыйшоў час, калі вольная Украіна і іншыя народы, паняволеныя тыранамі, зноў здабудуць сваё раўнапраўнае месца ў сям'і вольных народаў».**

Апрача гэтага, губарнатары некаторых штатаў і бурмістры некаторых гарадоў абвесьцілі ў дзень 22 студзеня спэцыяльнымі афіцыйнымі дэклярацыямі Украінскія Дні ў гэтых штатах і гарадох, а на афіцыйных дамох управаў Губарнатараў гэтых штатаў і гарадзкіх управаў у дзень гадавіны незалежнасьці Украіны, побач зь дзяржаўнымі сьцягамі Амэрыкі, павявалі і ўкраінскія нацыянальныя сьцягі.

Гэты прыгожы і палітычна вымоўны жэст Амэрыкі цешыць нас ня менш, чымся й Украінцаў, бо ён мае вялікае палітычнае значэньне для ўсіх народаў, паняволеных бальшавізмам, і зьяўляецца выяўленьнем спачуваньня й сымпатыяў амэрыканскага народу да дзяржаўна-незалежніцкіх імкненьняў усіх нашых народаў. Гэта сьветчыць, што, ня гледзячы на сяньняшні «коэгзыстэнцыйны» афіцыяльны курс амэрыканскай палітыкі, сярод адказных палітычных колаў Амерыкі, амэрыканскага грамадзянства і народу адбываецца выразная і станоўчая эвалюцыя ў кірунку зразуменьня запраўдных патрэбаў паняволеных народаў і іхнага падтрыманьня.

## ДА БЕЛАРУСКІХ ВЫДАВЕЦТВАЎ І АРГАНІЗАЦЫЯЎ

Акруговая Ўправа БАЗА ў Нью Ёрку гэтай дарогаю зьвяртаецца з просьбаю да беларускіх выдавецтваў і арганізацыяў перасылаць на ніжэй пададзены адрас усе выданьні й камунікаты ў колькасьці 2 паасобнікаў для бібліятэкі, якую арганізуе Акруговая Ўправа ў Нью Ёрку. Да гэтага часу бібліятэка ў Нью Ёрку ня існавала, дык пажадана было-б, калі рэдакцыі і выдавецтвы маюць лішнія паасобнікі ўжо выйшаўшых, каб былі ласкавы даслаць.

Усё гэта просім высылаць на адрас:

Beylorussian-American Association,
Inc. New York Branch
33 Norfolk St., New York 2, N. Y. U.S.A.

За супрацоўніцтва шчырае беларускае дзякуй!

**Акруговая Ўправа БАЗА**

**НІВОДНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ТАВАРЫСКАЯ Й СЯМЕЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ НЕ ПАВІННА АДБЫЦЦА БЯЗ ЗБОРУ СЯРОД ПРЫСУТНЫХ АХВЯРАЎ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ».**

**УЛАДЗІМЕР СЯДУРА**

# З раману „Вялікія Дарогі"

## Разьдзел III: Нечаканыя Госьці

**(Заканчэньне)**

Канстанцы хутка прабег вачыма ўжо некалі добра знаёмую яму форму. Там было колькі эгзэмпляраў капіравальнай паперы пад ёю. Дрыжачай рукой зь нявымерным сумам у вачох неяк нязвычна доўга падпісваў ён гэты пратакол адмыслова для гэтай мэты прапанаваным хімічным алаўком.

Тады тыя далі адну копію Канстанцаму. Мэханічна, нат ня прыпамінаючы пасьля, як гэта было, нейкім інстыктыўным рухам паклаў ён яе ў кішэню свае камізэлькі, ды адразу-ж пачаў зьбірацца ў дарогу. Ён ведаў, што іхныя заспакаеньні, што хутка вернецца — адны пустыя словы, якія яны гавораць кажнаму арыштаванаму, калі забіраюць яго з дому.

Папярэдняе дасьветчаньне казала яму, што ўжо вельмі і вельмі няхутка прыдзецца, калі наагул гэта і станецца калі-небудзь, пераступіць зноў гэты парог. Прад ягоным уяўленьнем стаялі доўгія этапныя шляхі, начныя допыты, азьвярэлыя твары канваераў і канцлягерных паганятых, гады прыгоньніцкае нявольніцкае працы дзесьці на далёкай халоднай поўначы.

Ён ведаў, чаго каштуе чалавеку паляжаць колькі месяцаў на каменнай сырой халоднай падлозе камары папярэдняга ўвязьненьня ў часы сьледзтва.

Таму на гэты раз ён цьвёрда наважыўся ня выйсьці з хаты, дарма што лета, бязь зімовага пальта. Ён добра ўяўляў, якім яно будзе ратункам, калі яно будзе заступаць і коўдру, і матрац у бясконца-доўгія дні і ночы зьняволеньня, доўгае дарогі на паліцах таварных вагонаў, ды на жорсткіх карах у лягерных бараках. На гэты раз ён сабе не рабіў ніякіх ілюзіяў адносна прышласьці, ня цешыў сябе магчымай памылкай, што, можа, разьбяруць і выпусьцяць. Ён ведаў, куды і для чаго яго забіраюць уночы зь ягонае кватэры гэтыя людзі.

Тыя былі зьдзіўленыя зь ягонага прадугледжваньня. Старэйшы неўнарок усьміхнуўся, калі ўбачыў, што Канстанцы не дае веры іхнім уцешлівым словам, аднак перашкаджаць ня сталі.

Узяў Канстанцы яшчэ колькі параў бялізны. Зь сьлязьмі на вачох маці сунула яму ў рукі клумачак з сухарамі ды цукрам, якбы ўзнарок прыгатаваным дзеля такога выпадку.

Нарэшце яна ня вытрывала й залілася ўся буйнымі сьлязьмі, ды ўшчала галошаньне на той вясковы лад, які можа ёй даводзілася чуць у маленсьцьве ў роднай вёсцы.

— А, мой-жа, сынок, карміцель ты наш, уцеха наша адзіная, куды-ж яны цябе забіраюць ад нас, старых, хворых, бездапаможных, чаму-ж яны адрываюць цябе ад нас ды на пагібель вядуць?

— Мама, ня плач, дарэмна, не ад іх гэта залежыць. Загад загадам. Яны толькі выканаўцы. Гэта з гары ўказ вышаў — ізаляваць... Каб ня шкодзілі. Вось я і трапіў у гэты лік. Нічога ня зробіш. Трэба ператрываць. Можа калі спаткаемся. Цярпі. Трымай сябе, матулька пакінь плакаць.

Гэта мала ўспакойвала маці. Чула ейнае сэрца, што ўжо можа назаўсёды забіраюць ад яе іхную адзіную надзею і ўцеху, дзеля якое яшчэ можа і варта было ім жыць. Што-ж ім рабіць на сьвеце, калі яго ня будзе зь імі — адно гора ростані, калі і сьлёзаў ня выплачаш.

Перад разьвітаньнем да ейнага галошаньня далучыліся ўсхліпы старога бацькі, які да гэтага сядзеў на сваім тапчане як-бы анямеўшы, нібыта доўга не даходзячы да сэнсу ўсіх гэтых падзеяў вакол яго.

Нязьмерна-глыбокі жаль да сваіх пакіданых бацькоў агарнуў душу Канстанцага.

— Чаму іх такі лёс? Яны-ж за жыцьцё сваё нікому нічога благога не зрабілі. А іх цяпер зноў пазбаўляюць апошняга сына. У гэты момант ён зусім ня думаў пра сябе, ня прыгадваў больш сваіх былых выпрабаваньняў. Ягоная натура пранялася цяпер нясьцерпным болем за тых, без каго ён — самотны, а безь яго — яны нешчасьлівыя.

Пякучы глухі боль за сваіх родных выцісьнуў усе страхоцьці за сябе самога. Цяпер ён толькі бязустанку прыгаварваў, зварачваючыся то да таткі, то да маці:

— Родненькія, ня бядуйце, ня плачце, ня трэба, можа Бог дасьць, усё абернецца добра, і мы яшчэ пабачымся.

— Прабачце мяне, калі чым-небудзь калі ўгнявіў Вас. А я заўсёды буду думкамі з Вамі, мае даражэнькія.

І ён падыйшоў да старога, абняў ягоную сівую галаву, пачаў горача цалаваць. Затым пацалаваў маці ў мокры твар, доўга ўглядаючыся ў яе поўныя гарачых сьлёзаў вочы. Яму і самому было цяжка ўстрымацца, каб не загаласіць. Ён адчуваў, як комам падварочвае жальба ў сярэдзіне, і як у самога на вочы міжвольна набягаюць сьлёзы.

Перад растаньнем маці яшчэ мацней загаласіла наўзрыд і ўськінулася яму на шыю.

— А мой-жа ты родненькі, даражэнькі сыночак... мусіць ня ўбачу я цябе больш... Забіраюць ад нас... забіраюць...

Яна гэтак ашчаперыла ягоную шыю, што канваеры ўжо ня сьцерпілі і баючыся, каб не зацягнулася надоўга, пачалі адрываць амаль-што сілком яе ад Канстанцага.

— Выходзьце, досыць... — крыкнулі яны разам на яго.

Не адрываючы вачэй ад упаўшае на падлогу маці, якая сударгава білася ў канвульсіі, і яшчэ больш узрушанага і бездапаможнага бацьку, што гэтак і застаўся сядзець, ня ведаючы, што рабіць яму ў гэтай складанай сытуацыі, Канстанцы пераступаў за парог свае роднае хаты.

У ягоным вушшу скрозь усю дарогу стаяла матчынае галошаньне, а ў вачох вобраз ляжачае на падлозе маці і бязьмернага болю на бацькавым твары.

А на дварэ, як і над усім чалавецтвам і зямлёю, ляжала ўгары тое-ж бяздоннае неба, усыпанае карункамі зоркавага россыпу. Скрозь ляжаў непарушаны спакой, панавала цішыня летняга перадсьвітаньня. Усё спала перадранішнім непрабудным сном... ня чуваць было яшчэ птушынага сьпеву... Толькі адно шчабятаньне конікаў у садох і давала ведаць, што жыцьцё не памерла і за якіх колькі часінаў зноў прабудзіцца да сняваньня свае адвечнае песьні.

